РЭСПУБЛІКА БЕЛАРУСЬ

# Культура

Кошт 300 рублёў

ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА-АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА №28 (136), 13 ЛІПЕНЯ 1994 ГОДА.



Як хораша зацвітаюць ліпы тут, у цэнтры Мінска, ва ўтульным скверы ля музея Янкі Купалы, атуляючы постаць Паэта! У сонечны, напоены водарам вечар 7 ліпеня, калі тут сабраліся адзначыць дзень яго нараджэння аматары Паэзіі, таемная прыгажосць кветак яшчэ хавалася ў пупышках, як хаваецца ў сапраўдным вершы магія, якая зачаруе душу нечым несказаным, таямнічым. Купальская ноч, калі нарадзіўся Янка Купала, нездарма самая загадкавая з усіх начэй года, і як радасна, што старажытнае свята беларусаў год ад года набірае сілу, аднаўляецца, нягледзячы на шалёны наступ ідэолагаў рэакцыі і нацыянальнага нігілізму. Радасна, што да Купалы ідуць у вялікія святы, такія, як дзень 25 сакавіка.



Горка, што прыходзяць да яго яшчэ не ўсе беларусы, што ёсць тыя, чыё скамянелае сэрца не кране ні паэтычнае слова, ні вялікая перасцярога Геніяаб тым, што бывае, калі народ губляе мову і памяць.



Пра гэта гаварылі на Свяце Паэзіі, якое правёў музей імя Янкі Купалы, яго дырэктар — нястомны прапагандыст беларускага слова Жана Дапкюнас. Свае вершы чыталі паэты Мікола Аўрамчык, Сяргей Грахоўскі, Сяргей Законнікаў, Леанід Дранько-Майсюк, Людміла Паўлікава і іншыя. Ля Паэта ляжалі кветкі і вянкі, гучалі беларускія песні, і бессмяротныя яго вобразы зноў ажывалі ў выкананні артыстаў тэатра імя Янкі Купалы.

І думалася аб Вечнасці, у якой кожны год новыя пакаленні будуць святкаваць дзень нараджэння Купалы...

**Фота Генадзя ЖЫНКОВА**







ПАЛІТЫЧНЫ БАРОМЕТР

# ТОЛЬКІ КРЫЛЫ БЕРАЖЫЦЕ...

Як бы ні бушавалі выбарчыя ці перадвыбарчыя навальніцы, яны прыходзяць і праходзяць. А мы... Мы застаемся на гэтай грэшнай зямлі, побач са сваімі сябрамі ці, як прынята гаварыць, палітычнымі праціўнікамі і сам-насам са сваім сумленнем.

І што яна, наша інтэлігенцыя, якая, нягледзячы на тое, што званне "честь и совесть эпохи" насіла іншая арганізацыя, усё ж заўсёды, у лепшых сваіх прадстаўніках, была сапраўдным сумленнем эпохі і будзіла гэтае сумленне ў навакольных? Як пачувае яна сябе ў бурлівых струменях посттаталітарнай эпохі, у перыяд выбараў і перавыбараў?

Глядзіш навокал — і толькі паспяваеш пераводзіць трапяткое дыханне: тыя бурлівыя струмені за лічаныя імгненні паспяваюць змыць са знаёмых твараў знаёмыя рысы, і, як у "Балаганчыку" Блока, бачыш нешта іншае, амаль містычна-нетутэйшае...

Ну, што вяшчае з экрана некалі абаяльна-інтэлігентны, ціха-але-апазіцыйны да камуністычнага ўціску палітычны аглядальнік БТ (муж, між іншым, зоркі Нацыянальнага тэатра)? (Не блытайце з маркай цыгарэт, хаця яны, дальбог, куды менш ядавітыя і шкодныя для здароўя, чым некаторыя праграмы!) Чыстая, шчырая, палымяная любоў да "ўлады маючых" з тых самых камуністычных колаў гучыць у кожным яго слове. А найгоршае — і парадаксальнае — не менш гарачая нелюбоў да нацыянальнага, да мовы, да ідэі Адраджэння.

А дэмакрат — дырэктар нацыянальнай кінастудыі, якога мы гадамі паважалі як таленавітага рэжысёра і чыё прозвішча з ціхім жахам сустрэлі ў цітрах нядаўняга "верноподданнического" фільма пра "нашего дорогого" В.Ф.К.?

А філосаф, які, адпаведна свайму прозвішчу, шалёнай рыбінай кідаецца на трапяткіх плотак перабудовы, што з саламонавай мудрасцю разблытваюць водарасці нашай палітыкі? Ён некалі плыў у першых радах дэмакратычнай плыні, яго артыкулы аб непазбежнасці падзення камунізму былі шырока заўважаныя... сёння ён з тымі, хто гатовы Беларусь жыўцом уціснуць у гнілую сетку імперыі і над кім фасфарычным бляскам ззяюць імёны Зюганава ці Сажы Умалатавай і іх беларускіх прыхільнікаў, хто гатоў дэмакратаў вешаць не іначай, як "уверх нагамі"...

А саспелы пад цёплым грыбным дажджом БНФ вайсковец, што прайшоў у парламент па іх спісах, а пасля пырхнуў ім у твар смуродам здрадніцтва як грыб-порхаўка, хаця спачатку лоўка прыкідваўся баравіком?

А "беларускі Сабчак", які яшчэ пазалетась на Маладзечанскай міжнароднай канферэнцыі так, здаецца, шчыра гаварыў пра беларускую культуру і сядзеў у прэзідыуме з тымі, каго ягоны сённяшні шэф цытуе толькі ў зняважлівым кантэксце, цалкам адмаўляючы ўсялякае значэнне нацыянальнай ідэі? Хто пайшоў у каманду прыхільнікаў неўміручага сацыялістычнага лозунга: "Працаваць не ўмееце? Навучым! Не хочаце? Прымусім!"

Што здарылася з імі? Паланіла сэрцы магутная, магічная, шматвяковая імперская ідэя? Максімаліста Пазьняка так неўзлюбілі? А можа... можа, есці хочацца? Памятаеце, як у гэтай дзіцячай дражнілачцы: "Гусі, гусі! Га-га-га! Есці хочацца? Ага!"

Есці хочацца ўсім. І доктару навук, чыя зарплата (з учарашнім падвышэннем) ледзь цягне на 400 тысяч. І рабочаму ў саўгасе, што атрымлівае 200, і пенсіянеру — кандыдату навук, — чыя пенсія, у адрозненне ад маёрскай, на добрую трэць меншая... Хочацца паставіць замежнаму госцю, што зайшоў да цябе пасля той жа канферэнцыі, пляшачку каньяку, а не "Сонцадара", прынесці на спатканне любімай жанчыне ружу, сесці не далей дзесятага рада на канцэрце Маісеева... І для гэтага не ўладкоўвацца ў "камок", каб хапаць за крысо прахожых і ўгаворваць іх купіць "Снікерс", а рабіць тое, што ты ўмееш і чым можаш узбагаціць навуку ці культуру... Але калі зарабляеш на жыццё, на масла да булачкі ці нават ікру тым, што (да слова) свабодна падпісваеш Зварот, у якім дэкларуецца здача тваёй дзяржавы; свабодна ліжаш "моцным свету гэтага", ну, скажам, шчаку; свабодна бярэш інтэрв'ю, не зводзячы аддaных вачэй з уладара і дыхаючы ў такт ягонаму дыханню; тады, можа, варта ўспомніць тую ж дзіцячую дражнілачку пра гусак і воўка, дзе, як і ўсюды ў фальклоры, закладзены яшчэ і іншы, глыбінны сэнс:

Ну, ляціце, як хаціце,
Толькі крылы беражыце!

І няхай народны пісьменнік пасля тлумачыць сваім сябрам, што зварот да здачы дзяржавы ён падпісаў, толкам не ўнікнуўшы ў сэнс дакумента, які тэрмінова прывезлі да яго ў дом і сунулі ў паўцёмнай прыхожай; хай рэжысёр з беларуска-глыбінным прозвішчам зубра і чароўнага горада таксама адводзіць вочы ўбок пры сустрэчы з былымі паклоннікамі... Парадзелая дэмакратычная плынь настойліва каціць паўз абмялелых астраўкоў, на якім махаюць чырвоным савецкім сцягам былыя барацьбіты з таталітарызмам, і белыя крылы іх натхнення запэцканы той жа чырванню, што адлівае карычневым... Тыя, хто застаюцца, ведаюць: як бы ні хацелася "кушаць", трэба берагчы крылы, калі гэта нават не крылы, а проста белыя пёркі, што ўздымаюць тваю душу да вечных ісцін — сумлення, праўды, справядлівасці...

**В.М.**

# ДЫСКУСІІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

У бурную дыскусію ператварылася ўрачыстая напачатку прэзентацыя кнігі "Нарысы гісторыі Беларусі. Частка I". І гэта не здзіўляе. Як адзначыў галоўны рэдактар і адзін з аўтараў кнігі М.Касцюк, тут упершыню падаецца гісторыя Беларусі ад старажытных часоў да 1917 г. з нацыянальнага пункту гледжання, засяроджана ўвага на беларускім этнасе і этнагенэзе беларусаў і іх дзяржаўнасці. "Наш этнас стаяў на грані знішчэння", — заявіў вядомы беларускі гісторык, таксама аўтар кнігі М.Біч, гаворачы аб пераемнасці гэтай працы калектыву Інстытута гісторыі ад пачатку стагоддзя і яго 20 — 30-х гадоў і аб своеасаблівым прагале ў галіне гістарычных ведаў, зробленым з 30-х па 80-я гады XX стагоддзя. Доктар гістарычных навук Г.Штыхаў падкрэсліў, што гэта першая калектыўная праца, створаная ва ўмовах незалежнасці, а толькі ў незалежнай дзяржаве можна стварыць сапраўдную, праўдзівую гісторыю.




Ужо на падыходзе гэтай кнігі яе сустрэлі варожыя водгукі тых, хто хацеў бы вярнуць Беларусь на шлях гістарычнага забыцця: тэндэнцыйныя выступленні ветэранаў КПСС у "Народнай газеце", а найболей у камуністычным друку. Добра, што "водгукі на водгук" паставілі ўсе кропкі над "і", таму што асноўная маса чытачоў ужо разумее: знішчэнне гістарычнай памяці — гэта знішчэнне народа.

Як паказалі першыя дні продажу, выдадзеныя тыражом у 40 тыс. экземпляраў, "Нарысы гісторыі Беларусі" вельмі актыўна раскупляюцца ў кнігарнях.

Рэдакцыя нашай газеты таксама атрымала падчас прэзентацыі экземпляр кнігі, якая несумненна дапаможа у нашых публікацыях на гістарычную тэму. Верыцца, што яна стане не толькі значнай грамадскай, але і навуковай з'явай.

**Наш кар.**

*На здымку*: дырэктар Інстытута гісторыі АН Беларусі Міхась Касцюк.

**Фота Г.ЖЫНКОВА**

# СПАТКАННЕ З ТАЙВАНЬСКІМ ЖЫВАПІСАМ

7 ліпеня ў Нацыянальным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь адкрылася выстава сучаснага кітайскага жывапісу, якая будзе доўжыцца тры тыдні. Вітаючы ўдзельнікаў вернісажу, дырэктар музея Юры Карачун адзначыў, што беларускія аматары мастацтва ўпершыню маюць магчымасць убачыць такую вялікую (больш за 80 карцін) выставу мастакоў з Далёкага Усходу. Гэтыя мастакі, добра вядомыя ў свеце, спалучаюць у сваёй творчасці магутную традыцыю кітайскага жывапісу з лепшымі набыткамі рэалістычнага і авангарднага мастацтва Захаду. Юрый Карачун павіншаваў іх з выставай і асабліва падзячыў прадстаўніку Асацыяцыі развіцця культурных кантактаў з Тайванем спадару Фу Вэй-сіну.

Спадар Фу Вэй-сін, са свайго боку, выказаў удзячнасць супрацоўнікам музея і Міністэрству культуры і друку за дапамогу ў арганізацыі выставы. На жаль, праблемы транспарціроўкі перашкодзілі паказаць на ёй тайваньскую кераміку і сучасны жывапіс алеем. Але гэта не здолела абвергнуць ягонае глыбокае перакананне, што мастацтва і культура не маюць межаў. Спадар Фу Вэй-сін выказаў спадзяванне, што неўзабаве на Тайвані адбудзецца выстава беларускіх мастакоў.



На вернісажы прысутнічалі таксама шэсць тайваньскіх мастакоў, з якіх трое бяруць асабісты ўдзел сваімі творамі ў выставе (на жаль, чацвёрты ўдзельнік не здолеў прыехаць на адкрыццё). Усе яны працуюць у Акадэміі мастацтваў і шмат выстаўляюцца за межамі сваёй радзімы.

Напэўна, найбольш вядомы з гэтых мастакоў — майстар Лі Чы-мао, які працуе ў класічнай старакітайскай манеры, што зрабіла вялікі ўплыў на еўрапейскае мастацтва мяжы стагоддзяў. Героі ягоных твораў — не столькі канкрэтныя людзі, рэчы або жывёлы, як рух і статычнасць, святло і цемра, існаванне і набыццё. Паводле твораў мастака, усе істоты і рэчы ў свеце існуюць у такой жа гармоніі з навакольнай прасторай, як смерць і жыццё, між якімі няма асаблівай розніцы, калі глядзець з Далёкага Усходу. Майстар Лі перад вачыма гасцей вернісажу віртуозна намаляваў за некалькі хвілін верніка з арлом на рудым кані — без усялякага папярэдняга накіду, паступова складаючы аднатонныя каляровыя плямы. Скончыўшы твор пад воплескі зачараваных гледачоў, мастак абвясціў, што дорыць яго Нацыянальнаму музею.

У найбольш еўрапеізаванай манеры выкананы графічныя аркушы Ляо Сю-пінга. Чымсьці яны нагадваюць калажы Маціса. На думку мастака, нацыянальная традыцыя захоўваецца не ў тэхніцы выканання, а ў светаадчуванні, якое спараджае твор у гледачоў. У "нацюрмортах" Ляо Сю-пінга некаторыя прадметы вылазяць за рамку, тым самым яднаючы прастору карціны з прасторай, у якой існуюць гледачы.

Астатнія два мастакі, Шэн Чэн і Ван Лан-сьёнг, на мой погляд, спалучаюць традыцыі кітайскага і еўрапейскага жывапісу. У карцінах Шэн Чэна адчуваецца ўплыў еўрапейскай рэалістычнай школы. Тым не менш лінія гарызонту ў гэтага майстра партрэта і жанравага жывапісу яшчэ адсутнічае: зямля яшчэ не адпала ад неба, як гэта адбылося на Захадзе. Ван Лан-сьёнг вядомы як майстар пейзажу. Падрабязны малюнак у яго неяк спалучаецца з вялікімі колеравымі масамі, характэрнымі для еўрапейскага абстракцыянізму. "Кітайскае" светаадчуванне адлюстроўваецца тут параўнаннем маленькіх чалавечых фігурак і велічных прыродных ландшафтаў.

Кітайскіх мастакоў павіншаваў з выставай народны мастак Беларусі Васіль Шаранговіч. Паводле яго, культура і мастацтва Тайваня, дзе ён бываў асабіста, уразілі яго сваім высокім узроўнем. Ён, у прыватнасці, пабываў у Тайваньскай акадэміі мастацтваў, якая аказалася вельмі падобнай да нашай. Адчувалася аднак, што цікаўнасць да мастацтва ў гэтай краіне з боку ўрада значна большая, чым у нашай. Вельмі высокая культура тайваньцаў, напэўна, і прывяла да эканамічнага росквіту гэтай дзяржавы. Васіль Шаранговіч пажадаў кітайскім майстрам творчых поспехаў, якія зробяць іхнюю радзіму яшчэ мацнейшай і прыгажэйшай.

**Юрась БАРЫСЕВІЧ**

# ІМКНУЦЦА ДА ЗДАРОВАГА СЭНСУ

*На Беларусі адбыліся першыя ў яе гісторыі прэзідэнцкія выбары. Падзея ў палітычным сэнсе, безумоўна, вельмі важная. Але як яна адаб'ецца на стане беларускай культуры? Ці можна чакаць якіх-небудзь крокаў, скіраваных на паляпшэнне стану культуры ў нашым грамадстве, ад Прэзідэнта і ягонай "каманды"? З гэтымі пытаннямі наш карэспандэнт Андрэй Вашкевіч звярнуўся да **Адама МАЛЬДЗІСА,** дырэктара Нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Францішка Скарыны.*

—Гэта цяжка спрагназаваць, таму што мы фактычна не ведаем праграмы нашага першага Прэзідэнта ў галіне культуры, а таксама не ведаем, хто ў новым кабінеце міністраў будзе займацца пытаннямі культуры. Калі гаварыць пра ўсіх астатніх прэтэндэнтаў на пасаду Прэзідэнта, то такая ярка акрэсленая нацыянальная праграма была хіба ў Зянона Пазьняка і Станіслава Шушкевіча і магла быць у Генадзя Карпенкі. Што ж да вынікаў галасавання, то спачатку яны мяне здзівілі. Я падазраваў, што паміж колькасцю галасоў, аддадзеных за Лукашэнку і Кебіча, будзе разрыў, але не думаў, што такі вялікі. Аднак потым зразумеў, што гэта, відаць, заканамерна. Таму што і ў апошнія гады сапраўднага клопату пра патрэбы інтэлігенцыі не было, у асноўным гэта былі ўяўныя клопаты. Да таго ж, калі ўзгадаць ход прэзідэнцкай кампаніі, то каманда Вячаслава Кебіча ўвесь час аказвала яму "мядзвежыя паслугі". У тым сэнсе, што яна вяла барацьбу з праціўнікамі такімі метадамі, якія выклікалі адваротную рэакцыю.

Ну а што стане з культурай? Хочацца заставацца аптымістам. Альбо грамадства будзе культурным і будзе паспяхова развівацца, альбо яно згубіць усялякую культуру і зойдзе ў палітычны, эканамічны і маральны тупік. Іншага выбару няма. Сёння мне патэлефанаваў з Нью-Ёрка Вітаўт Кіпель — дырэктар Беларускага інстытута навукі і мастацтваў. На маё пытанне "Якая рэакцыя ў ЗША на выбары першага Прэзідэнта Беларусі?" ён адказаў, што ўвага вялікая, газеты ўдзяляюць шмат месца і падаюць гэта як сенсацыю. Высновы робяць пераважна такія: "Пажывем —пабачым". Але тое, што здарылася на Беларусі, было заканамернасцю, а не выпадковасцю.

Я хацеў бы адзначыць, што кожны ўрад павінен мець акрэсленую палітыку ў галіне культуры, якая праяўляецца на практыцы, а не на словах, і яна павінна быць заснавана не на крайнасцях, а на нацыянальных каранях і традыцыях. Таму зараз нам патрэбна гэткая ўзважаная канструктыўная праграма. Мы з такой праграмай выступалі, сёе-тое робіцца і ў нашым Цэнтры, і ў іншых установах, але гэтага яўна недастаткова, таму што ў першую чаргу не хапае фінансаў.

Але я спадзяюся, што будуць змены да лепшага. У рэшце рэшт у нашых кіраўнікоў павінен спрацоўваць інстынкт самазахавання. Навошта патрэбны Беларусі Прэзідэнт, калі мы станем прыдаткам іншай краіны? Павінен пачаць працаваць элементарны здаровы сэнс. Зваротнага шляху ў нас няма. Мы павінны рухацца наперад. Мне здаецца, што ў галіне культуры наступае час прагматычных поглядаў на рэчаіснасць, час, калі трэба скончваць з палітыканствам, якое вядзе да канфрантацыі. Ад заклікаў трэба пераходзіць да канкрэтнай працы.

Галіна БАГДАНАВА

# РАЗВАГІ АБ ПРЭЗІДЭНЦТВЕ

## (З майго філасофскага дзённіка)

Уладзімір САЛАЎЁЎ: "Старажытны свет (да свайго распаду) не ведаў асобнага, адасобленага ад рэлігійнае веры, пачатку ў галіне разумовай — не ведаў абстрактнай самавызначанай навукі, гэтаксама, як у сферы грамадскага жыцця не ведаў ён абстрактнага юрыдычнага пачатку, які вызначае сучасную дзяржаву (бо старажытная дзяржава была безумоўнаю, г.зн. рэлігійнаю), так што і жыццё разумовае, і адносіны грамадскія аднолькава абумоўліваліся тады адзіным пачаткам рэлігіі, і таму выглумачэнне гэтага пачатку выглумачвае ўсё паганства, а праз гэта дае аснову для выглумачэння і ўсёй гісторыі чалавецтва".

Скрозь усе стагоддзі правадыр, кіраўнік, першая асоба племені, дзяржавы мусіла быць крыху больш культурнаю, разумнейшаю, мудрэйшаю за іншых, адным словам, крыху Богам. І прэзідэнт з лацінскае — той, хто сядзіць наперадзе. Такім чынам адвеку выяўляўся вышэйшы, нябесны, Боскі пачатак, ідэал, да якога кожны свядома ці падсвядома імкнуўся наблізіцца. Актыўны атэізм, а дакладней бязвер'е, выхаваў у людзях падсвядомую прагу бачыць у першай асобе дзяржавы не ідэал, да якога мусіш імкнуцца, а самога сябе. Хай сабе не зусім мудры, не зусім ахайны, хай сабе нават трохі хлусліві ці хамаваты, але ж затое свой "у дошку"! Боскі пачатак мусіў знікнуць не толькі з ладу мыслення, але нават са слоўнае абалонкі. Лепш, калі ён, гэты першы ў дзяржаве чалавек, гаворыць не на дадзенай Богам толькі нашай зямлі культурнай мове, а "как хаціт". Не ўзвышае, прыніжае гэта народ і кожнага паасобку. Пад гару заўжды ісці цікавей, чым па аднастайнай, бязводнай пустыні.

* * *

У працяг папярэдняга.

Васіль РОЗАНАЎ: "... толькі напішаш што-небудзь кпліваe, злоснае, тое, што разбурае, забівае, — як усе людзі прагна хапаюцца за кнігу, артыкул..."

"Любяць людзі пажар. Любяць цырк. Паляванне. Нават калі хто-небудзь тоне — па сутнасці любяць глядзець: збягаюцца".

Да Бога далёка. А калі тут, у нас, наладзіць усенароднае паляванне на якога-небудзь зубра ды заваліць яго — гэта клас!.. Колькі звярынага, дзікага выявіцца тады ў кожным... Якімі падобнымі зробяцца ўсе...

І зноў Васіль РОЗАНАЎ: "Малую травінку нарадзіць цяжэй, чым разбурыць каменны дом".

А мы, забыўшыся на нядаўні свой крывавы вопыт, спяшаемся ўзвесці на п'едэстал таго, у каго мацнейшая кувалда, а не таго, хто ўмее трымаць у руках рыдлёўку, граблі і ў каго стане цярпення паліваць нават самую кволую травінку на нашай зямлі.

Пакуль не вярнуўся ў нашыя душы Бог, не вернецца ён і ў душу нашае дзяржавы. Не ведаць нам спакою і дабрабыту. Не выбраць з гарачае галавы, без глыбокага сур'ёзнага роздуму першую Асобу, хоць крыху за нас усіх больш мудрую, больш культурную, больш адухоўленую, бліжэйшую да свету нябеснага, да Бога.

* * *

Ігнат АБДЗІРАЛОВІЧ: "За даўгія вякі гнёту і здзеку над нашай душой мы ўцямілі, што якую скуру сілком не накінь чалавеку, ён застанецца незадаволеным, бо заўсёды ён захоча перш-наперш быць самім сабой, чалавекам, а не замарожаным каталіком або праваслаўным, выгаленым на адзін капыл расейцам ці палякам, прававерным буржуем ці камуністым. У гэтыя цесныя мізэрныя рамкі не ўсадзіць вялікай душы чалавека".

Але варта дадаць: выхаванай, глыбокай душы. Бо ва ўсе стагоддзі тыя, хто прагнуў улады (ад рэлігійных сектаў да бальшавіцкіх гурткоў), вельмі дакладна скіроўвалі люмпенізаваны, абяздолены люд дзеля сваіх патрэбаў. Пра гэтую магутную разбуральную сілу слабых разважае сучасны італьянскі пісьменнік Умбэрта Эка ў сваім цудоўным рамане пра сярэднявечча "Імя ружы", пра гэта сведчаць апаганеныя музеі і панскія маёнткі, разбураныя цэрквы Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі. Нічога няма жахлівей за люмпенізацыю грамадства. Яна ў нас пачалася.

А чаму ў храмы, а не ў бібліятэкі ці тэатр, не ў канцэртныя залы, дзе не толькі суцяшаецца, а і мацуецца душа, пра якую рупіцца Абдзіраловіч, пайшлі сёння людзі, нават адукаваныя, нават мудрыя?

Васіль РОЗАНАЎ: "Боль жыцця значна больш магутны за цікавасць да жыцця. Вось чаму рэлігія заўжды будзе перамагаць філасофію".

* * *

Максім ГАРЭЦКІ: "... пракорі слова ў нас знаходзяцца, а прарокаў-эканамістаў няма..."

Так было, так ёсць і так будзе? Можа, каб нашыя эканамісты больш ведалі ды прыслухоўваліся да прарокаў слова, ды хаця б да самога Слова, і яны б зрабіліся відушчымі?..

* * *

МІКЕЛАНДЖЭЛА: "Нямоцна любім тое, што кепска бачым".

Большасць маіх суайчыннікаў кепска ведае мову, гісторыю, культуру, літаратуру і мастацтва (чытай — душу) зямлі, на якой нарадзіліся і жывуць. Значыць, не могуць па-сапраўднаму, глыбока любіць? А без гэтага ці абярэш Бацькаўшчыне дастойнага гаспадара (гаспадаром у Вялікім княстве Літоўскім называлі вялікага князя)? Шлюб па разліку (каб уедна, цёпла ды грошай шмат-шмат, а якіх — расійскіх ці там долараў — якая розніца...), дык вось такі шлюб, без высокае, светлае мэты хутка апрыкне, грошы праядуцца... А душэўны боль зальем гарэлкаю?..

# ВЫЖЫВАЕМ, ЯК МОЖАМ?

Каму са сталічных жыхароў незнаёмая такая карціна: дзесяці-дванаццацігадовыя хлопчыкі і дзяўчынкі, узброеныя анучамі і вёдрамі, нібы тыя мурашы, шныраюць з заклапочаным выглядам сярод шэрагу аўтамабіляў на прыпынках і аўтастаянках, прапануючы свой немудрагелісты від сервісу... Яны — мыйшчыкі машын. Што прымусіла шматлікую армію школьнікаў заняцца такой справай? Гэта і паспрабаваў высветліць наш карэспандэнт.

* * *

Васіль і Раман, шасцікласнікі адной з мінскіх школ. Хлопчыкі толькі-толькі выканалі чарговы заказ і цяпер вырашылі адпачыць. Іх непасрэднае месца працы — раён кінатэатра "Масква", гасцініца "Юбілейная". Як стала вядома з гутаркі, Вася і Рома — у гэтай справе навічкі — працуюць усяго толькі першы дзень. І таму першым пытаннем да іх было пытанне аб заробку.

— У сярэднім пяцьдзесят-восемдзесят тысяч за адну машыну, — ледзь не ў голас адказалі яны, — але палова грошай ідзе на падаткі.

— ?!

Ні ў якія, зразумела, дзяржінстанцыі хлопчыкі грошы не плоцяць. А таму сваім кроўным заробкам (50 на 50) дзеляцца са старэйшымі хлапцамі, якія па ўсім Мінску кантралююць гэты даволі прыбытковы від дзейнасці. А калі паспрабуеш супрацьстаяць такому рэкету, ці не паспееш у час унесці патрэбную пошліну, ці прыхаваеш прыбытак — рызыкуеш быць пабітым, і дарога назад табе будзе заказана. Але такое здараецца вельмі рэдка.

Безумоўна, хлопчыкам хацелася б зараз адправіцца куды пазагараць, схадзіць адпачыць у кінатэатр ці ў парк імя Чалюскінцаў, а яшчэ лепей — з'ехаць куды далей з Мінска ў які лагер ці санаторый. Толькі на ўсё гэта, зразумела, у іхніх бацькоў няма грошай. (Дарэчы, Вася выхоўваецца без бацькі і ў яго ёсць маленькая сястрычка Юля, якая заўсёды просіць купіць ёй марожанае "Снікерс".) Вось і вырашылі хлопчыкі заняцца мыццём машын, каб таксама ўнесці сваю частку ў сямейны бюджэт дый сабраць якую суму грошай. А як распарадзіцца лішкамі ад сваёй зарплаты, яны ўжо вырашылі: збіраюцца купіць канструктар "Lego".

Я не ведаў, што гэта за гульня такая заморская, аб якой мараць столькі хлопчыкаў і дзяўчынак. Таму пры развітанні з Васілём і Раманам адразу ж накіраваўся ў "народны" Гандлёвы дом на Нямізе.



Пры ўмове, што вашыя дзеці кругласутачна будуць мыць-перамываць усе сталічныя аўтамабілі, — яны купяць канструктар хутка. Ён каштуе ўсяго ад 30 да 160 даляраў у залежнасці ад мадыфікацыі.

* * *

Тут жа, каля Гандлёвага дома, пазнаёміўся з сямікласнікамі Антонам Адзінецкім, Алёшам Рэўскім, Антонам Гурыновічам і Васілём Ягоравым. А застаў я іх за мыццём нейкае іншамаркі.

Сваю працоўную вахту падлеткі пачынаюць у 10 — 11 гадзін раніцы. І заканчваюць прыкладна ў столькі ж, толькі ўжо ўвечары. Дамоў прыходзяць у 12, а то і гадзіну ночы. Вольнага часу амаль няма, але вылучаюць хвіліну, каб пачытаць якую кніжку — у асноўным па школьнай праграме. "Вечера на хуторе близ Диканьки", напрыклад.

У справе мыцця машын гэтыя хлопчыкі, у адрозненне ад Васі і Ромы з праспекта Машэрава, — ветэраны. І працуюць тут амаль з першага дня адкрыцця Гандлёвага дома. Нават змаглі назваць дакладную лічбу — 14 мая 1993 года.

Выхадны дзень у іх — нядзеля (не працуе магазін). І ходзяць у кіно, адпраўляюцца ўсе разам адпачываць у парк, робяць сабе і сваім родным сціплыя падарункі. Уласныя грошы ў кішэні, як самі яны кажуць, дапамагаюць адчуць сябе сапраўднымі "джэнтльменамі" перад дзяўчынкамі: часта адорваюць тых кветкамі і частуюць марожаным.

Заробак кожнага з іх складае ад пяцідзесяці да сямідзесяці тысяч "зайцоў" у дзень. Амаль усе грошы аддаюць бацькам, бо некаторыя з іх, у сувязі са скарачэннем штатаў, зараз засталіся без працы і пэўнага заробку. Антона А., прынамсі, становішча ўвогуле вымушае самастойна зарабляць грошы, таму што, акрамя яго, у сям'і ёсць яшчэ тры брацікі і дзве сястрычкі.

Хлопчыкі пахваліліся, што ім увогуле пашанцавала з абраным месцам і дзяжурнымі міліцыянтамі, якія ім вельмі спачуваюць і абараняюць ад налётаў мясцовых рэкецціраў.

* * *

Сяргей і Ігар (на выгляд па адзінаццаць гадоў) мыюць машыны на Камароўскім базары. Але падлеткі яўна былі не ў настроі. І хутка мне стала вядома, ад чаго: "дарослыя хлопчыкі" забралі ўсю дзённую выручку, нешта каля трохсот тысяч "зайчыкаў" (палова сумы была ў расійскіх рублях і амерыканскіх доларах). Але Сяргей і Ігар не падаюць духам: заўтра яны вернуць страчанае і адпомсцяць сваім крыўдзіцелям, бо маюць намер паклікаць старэйшых сяброў са свайго двара.

Прынамсі, Сяргей і Ігар, як вырастуць, усур'ёз думаюць стаць вадзіцелямі. І на развітанне шчыра паабяцалі, што калі я займею сваё ўласнае аўто, то мяне абслужаць па-за чаргі і прычым бясплатна.

* * *

Раней, на працягу дзесяцігоддзяў, дзіцячая праца лічылася "заганай".

Сёння і ў нас усё ўспрымаецца інакш.

Толькі ж калі "іхнія" дзеці цераз працу імкнуцца адчуць сябе незалежнымі ад бацькоў у фінансавым становішчы, то нашыя бягуць ад жабрацтва, стараюцца выцягнуць сваю сям'ю.

Яны таксама ў свае юныя гады нароўні з дарослымі ўступілі ў барацьбу за выжыванне...

**Міхась РЭВУЦКІ**

## "ПАБАЧЫЦЬ ПАРЫЖ І НЕ ПАМЕРЦІ", альбо Лета ў лічбах

Кажуць, лета ў зеніце, і пэўная частка чалавецтва збіраецца адпачыць. Навошта сёння нагадваць колішнія гады і ранейшыя адпачынкі на поўдні за адзіны месячны заробак?

Пакуль мы сёрбалі вядром газетную інфармацыю пад назвамі кшталту "Іх норавы" альбо "Лад жыцця..." (капіталістычны ці сацыялістычны па жаданні), французы проста жылі і працавалі, і, як кажуць, дабро нажывалі.

Прашу чытача прааналізаваць лічбы ў табліцы і параўнаць іх і нашы заробкі. Вынік гэтага — у розніцы цэнаў у Парыжы і ў Мінску.

| Цэны на некаторыя спажывецкія тавары (II квартал 1994 года) | у Парыжы ($) | і ў Мінску ($) |
|---|---|---|
| 1. Хлеб (батон, 400 г) | 0,42 — 0,67 | 0,01 — 0,06 |
| 2. Мяса (1 кг), выцінка | 8,33 — 10,00 | 1,60 — 2,00 |
| з пражылкамі | 4,17 — 6,67 | 0,80 — 1,00 |
| 3. Рыба (чырвоная) (1 кг) | 10,0 — 11,67 | 2,40 — 2,80 |
| 4. Яйкі (у сярэднім) | 0,17 | 0,20 — 0,40 |
| 5. Памідоры | 2,80 | 1,40 |
| 6. Бульба маладая | 1,00 — 1,08 | 0,60 |
| 7. Віно (у бутэльках "Бордо") | 1,58 | 2,00 — 2,80 |
| 8. Шампанскае "Брют" | 6,65 | 1,20 — 2,40 |
| 9. Паліва (1 л) (на бензакалонках) | 0,67 — 1,0 | 0,12 — 0,24 |
| 10. Сярэдні месячны заробак | 1450,00 | мін. — 4,0 |
| | | сяр.— 20,00 |

**Наш кар.**

**P.S.** Для каго "сталіца модаў і закаханых" не з'яўляецца сціплай нагрузкай ці прамежкам на "крутым" маршруце звычайнага летняга адпачынку ў час ваяжоў, згадаем адзін стары анекдот:

Сябар — сябру:

— Сёлета я зноў хачу паехаць у Парыж.

— А ты там быў?

— Не, але летась таксама хацелася.

# Племя маладое,

## ТРЭЦІ ПРАЦОЎНЫ ЧАКАЕ

Нарэшце тое, аб чым так доўга марыла студэнцкая грамада, — адбылося! Ручкай да новых сустрэч узімку памахала чарговая іспытовая сесія. Для адных гэтае не занадта багатае на сонечныя дзянькі лета сталася завяршальным этапам ў Alma mater: пахапаўшы атрыманыя дыпломы, разляцімся, будзем спадзявацца, па месцах сваёй пастаяннай працы, калі астатнім застаецца яшчэ шмат часу, каб "студэнтамі звацца" і дагрызці да канца граніт прапануемых навук. І ўсё добра, што добра сканчваецца! Сапраўды... (І сам у каторы раз, каб не сурочыць, тры разы стукаю па дрэве.)

І калі чэрвень 94-га нам здаваўся халодным, то ў жыцці ўсіх студэнтаў без выключэння гэты месяц заўжды самы спякотны. Дзіва што — увесь выкладчыцкі састаў чакае ад цябе вынікаў тваіх ведаў ажно за цэлы навучальны год. І толькі ад адной гэткай думкі адразу ж у гарачку кідае. А прыходзяць думкі сумныя вой як часта, а значыцца, перадыхнуць — расслабіцца — няма калі. Мяркуйце самі: чатыры — пяць гадзін на сон, ранішні культпаход у сталоўку, ну, а пасля шалёная гонка па студэнцкіх аўдыторыях ды чыталках. Сесія, адным словам...

І такі распарадак дня, бывае, што сябе і апраўдвае. У плане вучобы, зразумела. Бо падчас сесіі пра нейкае там здароўе ўвогуле забыцца трэба. Студэнтам медыцынскіх ВНУ таксама. Пры сустрэчы замест звычайнага "прывітанне" ці "як маешся" толькі і чуеш адны пытанні: "якая адзнака?" ці "што яшчэ здаеш?" (бы ў дзень выбараў — за каго прагаласаваў?). Ну, а калі няма станоўчага адказу, то, зразумела, якая ўжо можа ісці далей гаворка пра здароўе. Бо заўсёдна засынаеш на хаду і, як тая паддоследная мыш, што рэагуе на ўключэнне-выключэнне лямпачкі, не можаш ні чуць, ні чытаць пра ежу — адразу ж слінкамі абліваешся, бо таксама рэфлексы спрацоўваюць. І дзе тут не прыгадаеш пры болях у страўніку матчыны аладкі са смятанай ды салёныя агуркі з запечанай бульбачкай.

Асабліва хочацца паспачуваць іншагароднім студэнтам, юнакам і дзяўчатам з далёкай правінцыі, а зараз жыхарам яго вялікасці інтэрната. Бо ў параўнанні з імі карэнныя мінчукі — сапраўдныя паны, і правінцыялам іхняе жыццё, няхай сабе і пад пастаянным наглядам бацькоў, здаецца суцэльным раем.

Адным словам, уладкаваная кватэра — гэта не "абшчага", дзе за сцяной чарнаскуры сусед па блоку штоноч учыняў "зямляцкія паседжанні", калі цябе з усіх бакоў на працягу круглых сутак атакуюць з моцных калонак магнітафона "зачараваныя" гукі арабскіх мелодый і літаральна праз кожныя дзесяць хвілін у твае дзверы ломяцца, каб "стрэльнуць" крыху бульбы, сала, круп, цыгарэт, пазычыць колькі грошай да стыпендыі, "хадакі"... у рэшце рэшт такія самыя студэнты, як ты сам...

І так з дня ў дзень. Ад стыпендыі да стыпендыі. Ад сесіі да сесіі. Так усе пяць гадоў. Студэнта "абшчага" вучыць жыццю, корміць і... апранае. Сустракаецца, як гэта не звыкла будзе некаму чуць, і такое. Ад'язджаючы — адлятаючы ў свае родныя краіны, замежныя студэнты пакідаюць пасля сябе часам старую вопратку, проста каля смеццяправода: джынсы, красоўкі... якія потым з задавальненнем носяць "савецкія" юнакі і дзяўчаты. І нічога страшнага ў тым няма, калі рэч, што перайшла ў спадчыну, не заўсёды ў добрым выглядзе. Затое ад сораму ніхто яшчэ не памёр. Бо тут ужо не да пачуцця ўласнай годнасці студэнту-жабраку, бацькі ў якога таксама сталі жабракамі і жывуць адзінай мэтай, што пакуты іхнія неўзабаве скончацца і ў рэшце рэшт дзеці змогуць уздыхнуць вольна. І нікога сёння ўжо не суцешыш агульнавядомым і, здаецца, здзеклівым "цяжка ў вучэнні, лёгка ў баі", бо жыццё нашае сапраўды нічым ад барацьбы за існаванне не адрозніваецца.

Нервовы чэрвень ужо за спінай. Прэч усе забабоны кшталту: пятак пад пятку ды не мыцца і не галіцца на працягу сесіі і г.д. Наперадзе студэнцтва чакае трэці працоўны семестр. Для адных ён пройдзе ў будаўнічых атрадах, для іншых — у вёсцы на бацькоўскіх прысядзібных участках, калі можна будзе скалаціць хаця б нейкую капейчыну, назапасіць на зіму прадуктаў і ў рэшце рэшт набрацца моцы на новы навучальны год. Хто-хто, а адпачынак яны заслужылі па праву.

Студэнцкая моладзь з яшчэ большым імпэтам, чым аўдыторыі, штурмуе чыгуначныя і аўтавакзалы. Дамоў!

Замірае жыццё ў інтэрнатах і вучэбных карпусах. Толькі не надоўга. На змену старым гаспадарам з усёй Беларусі спяшаюцца новых — абітурыенты. І толькі ім — змагарам за права студэнтамі звацца — пакуль можна пажадаць адзінае: "ні пуха, ні пер'я".

**Адам ДУБЧЫК**

## МУЗЫКАНТ МАЕ ДЗВЕ РАДЗІМЫ

*28 чэрвеня ў Беларускай акадэміі музыкі адбыўся чарговы, 54-ы выпуск. Каб даведацца аб поспехах і праблемах музыкаў, якія пакінулі сваю Alma mater сёлета, і тых, каго гэта чакае праз некалькі гадоў, наш карэспандэнт сустрэўся з прарэктарам Акадэміі па навучальнай рабоце Аляксандрам РАШЧУПКІНЫМ.*

**— Аляксандр Фёдаравіч, музыка — гэта мова інтэрнацыянальная, індывідуальная ў кожнага творцы альбо нацыянальная?**

— Музыка — гэта мова, якую разумее кожны чалавек, але яе інтэрнацыянальны характар складаецца менавіта з адметнасцяў нацыянальных музычных культур. Тым не менш музыка нарадзілася, напэўна, раней за ўсе словы і звяртаецца хутчэй да душы чалавека, а не да розуму, а таму можа служыць мовай міжнародных зносінаў.

**— Два гады таму былая кансерваторыя ператварылася ў акадэмію. Як гэта адбілася на навучальным працэсе?**

— Па-першае, у нашай установе пабольшала музыкі. Паменшала ідэалогіі — у тым ліку ў самой музыцы. Не сакрэт, што раней шмат кампазітараў у нас былі "забароненыя", як і імёны многіх таленавітых выканаўцаў. Адпаведнае стаўленне было і да гісторыі нацыянальнай музыкі. А цяпер для нас адзіны крытэрый ацэнкі таго ці іншага кампазітара — ягоны талент. Куды больш увагі мы цяпер надаем вывучэнню беларускай музыкі. У мінулым годзе на музыказнаўчым факультэце адкрылася аддзяленне "музычная беларусістыка", дзе паглыблена вывучаюцца і фальклорная музыка, і творчасць беларускіх кампазітараў. У навучальных планах грамадска-палітычныя дысцыпліны перасунуліся з першага месца на чацвёртае — пасля прадметаў спецыяльнага, педагагічнага і гісторыка-музычнага цыклаў.

Нашыя студэнты пачалі больш ездзіць на замежныя канцэрты і конкурсы. Сімфанічны аркестр Акадэміі музыкі пад кіраўніцтвам рэктара, народнага артыста Беларусі Міхаіла Казінца падрыхтаваў за год сем канцэртных праграм, з якіх чатыры маюць філарманічны характар. Выпускніца гэтага года Таццяна Варапай ужо мае дыплом пераможцы конкурсу вакалістаў імя Глінкі, а цяпер паехала на конкурс імя Чайкоўскага і з поспехам ужо прайшла два туры. На гэты ж конкурс ездзіў наш студэнт-струннік Подаў. З поспехам выступаў там яшчэ адзін хлопчык з музычнага ліцэя пры Акадэміі. Цяпер нам лягчэй выязджаць, бо не трэба праходзіць адбор у Маскве. У выніку маем лаўрэатаў конкурсу ў Польшчы, а наш студэнт Дзмітрый Марозаў, напрыклад, атрымаў другую прэмію на конкурсе ў Іспаніі.

**— Напэўна, пасылаеце цяпер студэнтаў за мяжу і на вучобу?**

— Пакуль што не, хіба што ў Расію на майстар-класы. А вось да нас замежныя выкладчыкі часам прыязджаюць.

**— Чым адрозніваецца сёлетні выпуск ад папярэдніх?**

— Ведаеце, мастацтва патрабуе і прафесіяналізму, і таленту. У мінулым годзе нашымі выпускнікамі былі вельмі таленавітыя людзі: напрыклад, лаўрэат конкурсу ў Польшчы скрыпач Наталля Сталярская і выдатны піяніст Цімур Сергіеня, які цяпер вучыцца ў аспірантуры ў Маскве. А ў гэтым годзе сярод струннікаў яркіх талентаў не было, і не таму, што мы іх вучылі горш.

Цяперашнія выпускнікі пачалі больш прагматычна ставіцца да жыцця. Яны самі шукаюць сабе месца працы. Нашае размеркаванне цяпер мае не прымусовы, а рэкамендацыйны характар. І няшмат хто выбірае месцы, якія мы прапануем: беспрацоўя не баяцца. Мы нават ніяк не можам укамплектаваць кадры нашага педагагічнага факультэта ў Магілёве, бо ўсе ўладкоўваюцца на працу ў аркестры — тут ці за мяжой: у Польшчы, Германіі, Чэхіі.

Адносна добры ў гэтым годзе выпуск па класе фартэпіяна. Мы ўпершыню сёлета прысуджаем ступені бакалаўра і магістра. Сярод выпускнікоў — дзесяць магістраў і дзесяць бакалаўраў, дык вось чатыры магістры — сярод піяністаў: яны выступалі з сольнымі канцэртамі, напісалі рэфераты па спецыяльнасці і выдатна вучыліся ўсе гады.

**— Ці не збіраецца Акадэмія скарачаць прыём новых студэнтаў?**

— Рабіць гэта, на маю думку, не варта: набор і так невялікі, 160 чалавек. Дарэчы, з іх дзесяць мы прымаем на наш факультэт у Магілёве і яшчэ дзесяць — на новую кафедру харэаграфіі (раней, каб атрымаць вышэйшую адукацыю, нашыя харэографы мусілі ехаць у Расію). Хіба гэта шмат для еўрапейскай краіны —24 піяністы, 10 музыказнаўцаў, 15 скрыпачоў — першакурснікаў штогод? А з іншага боку, цяжкасці з фінансаваннем культуры прывялі да скарачэння колькасці музычных школ, з-за гэтага скараціўся прыём у вучэльні, а ў выніку падае конкурс і ў нас. Але мы не хочам скарачаць прыём, бо гэта, лічым, не паспрыяе беларускай культуры: у краіне не хапае музычных педагогаў і аркестрантаў.

**— Наколькі свабоднымі ў эстэтычным плане пачуваюць сябе студэнты ў Акадэміі? Спадзяюся, атанальную музыку ўжо не забараняюць?**

— Ад Вашага пытання падалося, што адкрыў запыленую кнігу: забароны на выкладанне і выкананне чагосьці несавецкага ўжо далёка ў мінулым. Галоўнае, каб музыка была таленавітай і даходзіла да сэрца слухачоў. Кампазітары і музыказнаўцы вывучаюць у нас усе музычныя сістэмы XX стагоддзя. Хвалюе нас іншае. Мы адстаем ад сучаснасці, бо цывілізаваны свет пераходзіць на камп'ютэрную музыку, а мы не маем сродкаў, каб набыць адпаведную апаратуру. Раней мы не жадалі ісці ў ногу з часам, цяпер жа хочам, але не можам. Але як толькі знойдзем грошы — адразу набудзем сучасную музычную студыю.

Паколькі мала плошчы, выкарыстоўваем навучальныя класы ў дзве-тры змены. А будынак другога курса Акадэміі, што прылягае да кафедральнага сабору, вернікі патрабуюць перадаць царкве. Калісьці Савет Міністраў прыняў пастанову аб перадачы нам будынка аблсафпрафа, але цяпер там месцяцца камерцыйныя структуры.

Нягледзячы на ўсё гэта, Акадэмія сталася сапраўдным цэнтрам збору і апрацоўкі народнай музыкі, хаця амаль не мае і патрэбнай для гэтага тэхнікі. Прарэктар па вучэбна-творчай рабоце Вадзім Яканюк выказаў слушную думку: "У Беларускай акадэміі музыкі павінны захоўвацца кожная нота, якую напісаў беларускі кампазітар, і кожны гук, праспяваны вясковым артыстам".

**— І нарэшце, што б Вы хацелі пажадаць сёлетнім выпускнікам?**

— Я хацеў бы пажадаць шчырага і самаадданага служэння музыцы.

**— Бо музыкант мае дзве радзімы: зямлю, на якой нарадзіўся, і музыку...**

— Так, для музыканта яна — як другое паветра.

**Гутарку вёў Юрась БАРЫСЕВІЧ**

## "ДАРАСТАЦЬ" ДА АГУЛЬНЫХ СТАНДАРТАЎ

*Мінскаму універсітэту культуры — 1 год. Створаны ён на базе Інстытута культуры, якому было б сёлета 20 гадоў. З гэтай нагоды наш карэспандэнт сустрэўся з рэктарам Універсітэта культуры* ***Ядзвігай Дамінікаўнай ГРЫГАРОВІЧ.***

**— Ядзвіга Дамінікаўна, апошнім часам хваля моды пераймяноўваць вуліцы, гарады захлынула і вышэйшыя навучальныя ўстановы. Якія змены за няпоўны адзін год адбыліся ў Беларускім універсітэце культуры? Як гэты новы статус навучальнай установы паўплываў на выпускніка-94?**

— Я адчуваю Вашу іронію. Выпускнік-94 нашай Alma mater займаўся па праграме былога інстытута. Вось праз 3 гады мы атрымаем маладога спецыяліста з універсітэцкай адукацыяй... Вядома, калі нас параўноўваць зараз з Падуанскім універсітэтам ці Сарбонай, трэба быць, мякка кажучы, вар'ятам. Гэтыя ўстановы, Меккі студэнцтва ўсіх часоў, маюць за плячыма не адно стагоддзе. А калі мы намагаемся ўвайсці са сваёй сістэмай адукацыі ў еўрапейскую сістэму, каб наш універсітэт ведалі ў свеце, дык павінны "дарастаць" да агульных стандартаў. Змена назвы ўстановы — гэта першы крок. Зараз мяняем навучальныя планы, якія будуць прадугледжваць, у першую чаргу, сур'ёзную гуманітарную і культуралагічную падрыхтоўку. Змяненне планаў пацягне за сабою змену і навучальнай праграмы. Панаваўшая раней марксісцка-ленінская філасофія робіцца толькі маленькай часткай асэнсавання сусвету. Час патрабуе абсалютнага змянення зместу шэрагу прадметаў. А галоўная задача засталася: нацыянальная культура ў структуры сусветнай і спасціжэнне сусветнай праз нацыянальную культуралогію...

**— Як уладкоўваюцца сёлетнія выпускнікі?**

— На сённяшні дзень нашы выпускнікі ўжо ўладкаваліся, за выключэннем маладых мам. Уявіце сабе, што праблемы працаўладкавання не існуе. Каля 70 працэнтаў маладых спецыялістаў "разбіраюць" сталічныя і абласныя мастацкія калектывы і прадпрыемствы. Па-ранейшаму асаблівай папулярнасцю ў рэспубліцы карыстаюцца наступныя аддзяленні: арганізатар народнай творчасці, народная інструментальная музыка, рэжысёр народных святаў. Аднак жа з бібліятэказнаўцамі праблема: у іх надта вузкая і канкрэтная спецыялізацыя. Таму сёлетні набор абітурыентаў складае замест 200 чалавек толькі 50. Прадугледжваючы складанасць працаўладкавання праз 4 гады і тых 50 спецыялістаў, мы стварылі новыя аддзяленні на факультэце: бібліятэказнаўства і замежная мова, бібліятэказнаўства і беларуская мова і літаратура, інфарматыка ў сферы культуры, маркетынг бібліятэчнай справы.

Прымаючы экзамены ў будучых студэнтаў, акцэнтуем увагу на ўзроўні ведаў агульна-культурнага развіцця і накіраванасці на нацыянальныя інтарэсы дзяржавы. Сёння няма такога паняцця, як мэтавік. Мэтавы набор (1 — 2 месцы) мы пакінулі толькі на найбольш папулярныя спецыяльнасці. Але, улічваючы тое, што не ўсе могуць вучыцца ў Мінску, мы стварылі універсітэцкія філіі. У гэтым годзе адкрываем факультэт народных рамёстваў у Навагрудку, дзе будуць працаваць выкладчыкі нашага і гродзенскага універсітэтаў. Дзякуючы гэтаму моладзь застанецца ў родных мясцінах.

**— Ядзвіга Дамінікаўна, у наш час студэнцтва білі ў ладкі на лекцыях таму ці іншаму выкладчыку ў знак вялікай павагі. У вашым універсітэце таксама ёсць папулярныя сярод студэнтаў выкладчыкі?**

— Яшчэ колькі! Гэты сакрэт мы "легалізавалі" пры дапамозе анкет. Разам са студэнтамі я бісірую прафесарам: А.Грыцкевічу, А.Мальдзісу, М.Грынчыку, М.Барышаву, В.Цітову, дацэнтам В.Поссэ, А.Пякуцька.

**— Дазвольце прапанаваць вам "бліц-апытанне", каб крышачку падняць заслону, якая развее ці ўзмацніць міф аб неардынарнай асобе — жанчыне-рэктарцы.**

— Калі ласка!

**— Ваша жыццёвае крэда...**

— "Трэба!" Але з цягам часу часцей нагадваю сабе словы, якія былі на пярсцёнку ў цара Саламона "...і гэта пройдзе".

**— З чаго пачынаецца Ваша раніца?**

— Іду рыхтаваць сняданак шаснаццацігадоваму сыну і пляменніцы і мару, што сёння абавязкова лягу спаць раней...

**— Чаго б Вы пажадалі сабе?**

— Здароўя на доўгія гады сваім родным, каб яны не пакідалі нас заўчасна.

**Жанна ВАСАНСКАЯ**

# НЕЗНАЁМАЕ...

## Людміла БАХАНОВІЧ:

# "ЁСЦЬ АНСАМБЛЬ, А БУДЗЕ — ТЭАТР"

*Яе спецыяльнасць — дырыжор-харавік, музыкант. Яе пасада — дырэктар вучылішча мастацтваў. Бадай, яна не надта задумвалася над тым, мае яна талент кіраўніка ці не. Яна не вярэдзіла сабе душу адвечным інтэлігенцкім "спраўлюся — не спраўлюся".*

*Яна рабіла ўсё рашуча. Пераехала ў Пінск. У месца больш чыстае, чым тое, дзе жыла сям'я — ратавала маленькага сына. Два старэйшыя — ужо дарослыя, на самастойным хлебе. У дырэктары новай навучальнай установы напрасілася сама. Пачынала, як кажуць, з нуля, нават сталага памяшкання для заняткаў на першым часе не было. Неяк з адчаем падумала: "Не дагонім. Мінскаму музычнаму вучылішчу — 60. Іншым 40 і болей. А рынак спецыялістаў не будзе пытаць, якое вучылішча чалавек закончыў — Мінскае ці Пінскае. У яго крытэрый адзін — мусіш быць спецыялістам высокага класа, з дыпломам адпаведнага ўзроўню".*

*Людміла Бахановіч пачала ствараць у Пінску новую і даволі незвычайную навучальную ўстанову — тут вучацца на высокіх класічных узорах музыкі і харэаграфіі...*

**— Чатыры гады вучылішчу, як чатыры — дзіцяці. Яно ўжо цвёрда стаіць на нагах?**

— Нельга сказаць, што мы цвёрда стаім на нагах. Але нельга казаць, што толькі падняліся з каленяў. Уся справа ў тым, як мы самі пачуваемся і як нас успрымаюць. Летась мы выпусцілі 14 спецыялістаў. Яны пайшлі ў Дамы культуры, сталі кіраўнікамі харэаграфічных студый, танцавальных ансамбляў. Нехта выбраў дзіцячы садок, выкладае рытміку.

Сёлета выпуск быў большы — 25 чалавек. І што радуе — больш за палову нашых выхаванцаў мае намер вучыцца далей, удасканальваць сваё майстэрства, свае веды. Адна група (восем чалавек), здаўшы ўсе экзамены на пяцёркі, у поўным складзе паступае ва Універсітэт культуры, на аддзяленне харэаграфіі. Яны не хочуць разлучацца! Іхнія педагогі — Валерый Віктаравіч Жыльцоў і Вера Анатольеўна Капельнікава. Я думаю, зроблена неверагоднае. Так, у нас неблагі адміністрацыйна-лекцыйны корпус. Але ў нас няма сапраўдных рэпетыцыйных харэаграфічных залаў. Няма сапраўдных станкоў. Без усяго гэтага, без люстраў, без душавыхдзецічатырыгадынавучалісянялёгкамумастацтвухарэаграфіі.Інавучыліся.І нават вельмі някепска, раз са сваёй танцавальнай праграмай патрапілі на Міжнародныфестывальфальклору.

**— О, пра ваш ансамбль загаварылі на фестывалі многія. "Пінская шляхта", "Пінская шляхта"... Асабліва ўразілі строі. Зроблены адмыслова, шыкоўна, з густам! Я, на жаль, не спецыяліст, мне цяжка меркаваць, наколькі высокапрафесійна ці не зусім выступалі вашы гадаванцы. Чула, што строгае журы з вобласці, даючы пуцёўку ансамблю на ўдзел у фестывалі, вырашыла звярнуцца да Міністэрства культуры і друку з хадайніцтвам, каб надаць яму высокае званне "народны"...**

— Мы цяпер стаім на новым шляху — ісці далей і стварыць Тэатр танца. Прычым танца беларускага, танца палескага. Хто глядзеў выступленні нашага ансамбля, той мог заўважыць: большасць танцаў у рэпертуары, як кажуць, "мясцовае" прапіскі, падгледжаныя ў Іванаўскім раёне, на Століншчыне. Танцы народаў, якія насялялі Піншчыну даўней і цяпер тут жывуць — палякаў, яўрэяў, украінцаў. Валерый Жыльцоў адшукаў у Мінску (сябры-навукоўцы памаглі) цікавы музычны твор XIX стагоддзя. Гэта Напалеон Орда. Яго больш ведаюць як мастака, але наш зямляк, аказваецца, пісаў вельмі прыгожую, вельмі гарманічную музыку. Паводле знойдзенага твора Валерый Жыльцоў стварыў яркі, маляўнічы танец — ім "Пінская шляхта" адкрывала сваю конкурсную праграму на фестывалі.

**— А што за артысты будуць у Тэатры танца? Аб'яўляеце новы набор?**

— Думаю, гэтую задачу будзем вырашаць усе разам. Ансамбль "Пінская шляхта". Не бойцеся, яму не пагражае "ўцечка кадраў" з-за таго, што выпускнікі кожнае лета пакідаюць вучылішча. Адны адыходзяць, іншыя прыходзяць, уліваюцца новыя творчыя сілы — у нас жа цэлае аддзяленне, якое рыхтуе харэографаў-прафесіяналаў. Пры вучылішчы створана і працуе дзіцячая харэаграфічная школа. Чаму ж нам не паспрабаваць паставіць нумары з удзелам дарослай і дзіцячай групаў? Сёлета плануем адкрыць у вучылішчы клас бальных танцаў. Вось вам і артысты! Няма праблемаў і з музычным суправаджэннем. Бо ў вучылішчы акрамя харэаграфічнага ёсць яшчэ і музычнае аддзяленне (клас баяна, акардэона, фартэп'яна). З будучых музыкантаў-ахвотнікаў створаны ансамбль народных інструментаў. Кіраўнік — Валерый Камісарчук, пінчук, выпускнік Беларускай кансерваторыі, цудоўны педагог, цудоўны баяніст, аранжыроўшчык, дырыжор.

**— Якім канкрэтна бачыцца Вам будучы Тэатр?**

— Стварэнне Тэатра танца — гэта не жарцік. Гэта такая справа, над якой нам практычна трэба будзе шмат папрацаваць. Трэба звяртацца за фінансавай падтрымкай. Дзе знайсці іх, дабрадзеяў? На вуліцы Леніна (старая гістарычная забудова) гарадскія ўлады ўжо даўно аддалі нам стары будынак. Напачатку там вяліся работы, мы многа спадзяванняў мелі на гэты дом, а цяпер усё спынілася: няма сродкаў. Але ж не вечна іх не будзе! Мне ўяўляецца, што ў старым го-



радзе, у старым, але адрэстаўраваным будынку, магчыма, і створыцца той беларускі асяродак, пра які многа ўсе гавораць, а стварыць не могуць. Паверце, у будынку гаркама партыі (стыль халодны і суворы) не жыве дух беларускасці. А менавіта гэты будынак дастаўся нам у жніўні 91-га, разам з мэбляй і цудоўнай бібліятэкай. Тут не хочацца размаўляць па-беларуску. Тут трохі дзіўна, як усё адно ў музеі, і не лепшым чынам глядзяцца беларускія ручнікі і сурвэткі, іншыя рэчы. Зрэшты, два пакоі і ёсць у нас беларускім музеем...

Ёсць надзея, што беларуская душа ачнецца, ажыве ў старым горадзе. Ёсць шмат задумак па аднаўленні нашага Дома мастацтваў. Бачыцца ён афармленым у нацыянальным каларыце і стылі. Пачынаючы ад уваходу, ад прыступак, ад ліхтароў на вуліцы. Плануюцца велізарныя прыбудовы, каб узвесці тэатр пад адкрытым небам, у цэнтры двара — свой амфітэатр, як у Еўропе. І гэта быў бы Тэатр танца. Мы збіраемся паказаць развіццё беларускага танца па эпохах, тэатралізавана, магчыма, у спецыяльным выкананні, з дэкарацыямі, можа, з цэлымі фальклорнымі сцэнкамі. Праўда, Ніл Сымонавіч Гілевіч, пабыўшы нядаўна ў вучылішчы, засцерагаў нас: паколькі, маўляў, назваліся пінскаю шляхтай, дык усё ў нас павінна быць шляхетна — гэта значыць карэктна і элегантна.

**— Вы, Людміла Аляксееўна, выдаеце на чалавека, які несупынна прадукуе ідэі і вельмі спяшаецца іх рэалізаваць.**

— Я мушу спяшацца, бо з-за якой-небудзь надарэчнасці можна проста не паспець зрабіць тое, што задумаў, што наканавана табе лёсам. А наконт ідэяў... Ведаеце, можна мець капу ідэй, але не знайсці падтрымкі. Я лічу, што мне шанцуе на людзей, якія мяне разумеюць. Увогуле пінчукі, або палешукі, як іх завуць, вельмі добра ўспрынялі стварэнне ў горадзе вучылішча мастацтваў. А Пінск не абдзелены сярэднімі спецыяльнымі ўстановамі — вунь колькі тут тэхнікумаў і вучылішчаў. Гэта горад студэнтаў.

Самыя шчаслівыя для мяне дні, калі сустракаеш людзей і ад гэтай сустрэчы ідзе цёплы разрад думак, калі разумеюць адзін аднаго вочы. Не, не вочы закаханых, а вочы сяброў, калег, аднадумцаў, творчых людзей. Я не ўтойваю — гэта Уладзімір Цімошчанка, мэр горада, гэта Іосіф Чаркас, гэта мае калегі ў гарадскім аддзеле культуры, у музычнай школе, у вучылішчы. Калі пачынаеш новую справу, то, паверце, няма часу на нейкія сваркі ды звадкі. Але бываюць і горкія дні. Як ва ўсіх, хто нешта робіць...

**— У Пінскае вучылішча мастацтваў паступаюць дзеці пасля дзевяці класаў, выключна з раёнаў адной Брэсцкай вобласці. Гэта, мусіць, ад таго, што вучэльня знаходзіцца пад патранажам Брэсцкага абласнога аддзела культуры. А ці могуць паступаць да вас абітурыенты з іншых рэгіёнаў?**

— Канешне могуць. На жаль, рэклама пра наша вучылішча вельмі сціплая. Хацелася б, каб да нас ехалі здольныя, адораныя дзеці з усіх куточкаў Беларусі. Каб паступалі на харэаграфічнае аддзяленне, бо менавіта тут у нас многа цікавых, добрых, таленавітых педагогаў. Яны любяць сваю прафесію, любяць дзяцей.

Мяне парадавала, што сёлета ў наша вучылішча будуць паступаць выпускнікі з Гомельскай вобласці. Гэта ж Палессе, але інакшае, чым пінскае. Цешыць тая акалічнасць, што сярод першых заяў з просьбаю дапусціць да ўступных экзаменаў было ажно 12 ад хлопчыкаў. Вельмі хочацца, каб наша Брэсцкая вобласць насыцілася добрымі і неабходнымі спецыялістамі-харэографамі, канцэртмайстрамі. І дай Бог, каб менавіта такіх мы падрыхтавалі.

**— Дзякуй за гутарку. Паколькі матэрыял пра вучэльню з'явіцца ў газеце ў гарачую пару ўступных экзаменаў, то хочацца сказаць з гэтае нагоды:**

**— Рыбна Вам!**

**Алена ТРУСАВА**

КАНТРАМАРКА

# І СЫШЛІ СА СЦЭНЫ ДЫПЛАМАВАНЫМІ АКЦЁРАМІ...

На XII Сусветным кангрэсе Міжнароднай федэрацыі тэатральных даследаванняў, браць удзел у якім мне выпаў вялікі гонар, я даваў інтэрв'ю сваёй калезе са Славакіі — прафесару Акадэміі музыкі і драматычнага мастацтва Надзеі Ліндоўскай. Гаманілі мы з ёй пра стан, як творчы, так і эканамічны, тэатра ў посткамуністычным грамадстве. Яе здзіўленне і захапленне выклікала і сама ідэя, і ўжо нават практыка Тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі ў Мінску — сам факт, што дзяржава ў асобе Мінкультуры ў такі складаны час выдзяляе немалыя грошы на тэатральныя эксперыменты, не патрабуючы фінансавай аддачы, натыхчасовага безумоўнага творчага плёну, а робіць гэта адно толькі ў спадзяванні на будучыню. Пасля мы яшчэ не адзін раз вярталіся да гэтай тэмы ўжо разам з калегамі з іншых краін былога так званага лагера. Падумалася: каштоўнасць свайго найбольш востра асэнсоўваеш у замежжы. А калі вярнуўся на радзіму, першы ж візіт на "Вольную сцэну" гэта пацвердзіў.

Яна, "Вольная сцэна", у чарговы раз узрадавала сваім смелым эксперыментам. Дала зразумець, што эксперымент тут не дзеля эксперыменту. На гэты раз нават больш — вынік быў ужо відавочны ў той самы вечар, але і наступствы яго для нашага мастацтва ў перспектыве таксама можна прадбачыць.

Дзве падзеі зліліся ў адну — маляўнічы, захапляльны спектакль. Першая, якая вынікае з самой ідэі тэатра-лабараторыі нацыянальнай драматургіі, — гэта дэбют аўтара. Папулярная паэтка Раіса Баравікова пасля шматмесячнай працы з рэжысёрам Валерыем Мазынскім і загадчыкам літчасткі Іванам Чаркасам прадставіла гледачу сваю п'есу "Барбара Радзівіл". Скажу адразу: п'еса атрымалася. Найперш — фрагмент гісторыі Бацькаўшчыны, звязаны з барацьбой польскай кароны і ўплывовых магнатаў Радзівілаў, адлюстраваўся ў драме моцных пачуццяў, страсцей. Гістарызм і авантурнасць, займальнасць, магутны струмень паэтызацыі кахання, цэльнасць характараў, нечаканая выбуховасць перыпетый, маляўніча ўзнёслая мова характарызуюць твор Раісы Баравіковай і даюць падставы для таго, каб зразумець, што ён —неардынарная з'ява ў нацыянальнай сучаснай драме.

Другая фарба, што зрабіла вечар на "Вольнай сцэне" асабліва святочна-ўзнёслым, звязана з атмасферай выпускнога іспыта. Так, менавіта тут на сцэну ўзышлі яшчэ студэнты, а сыходзілі з яе дыпламаваныя акцёры. Спадар Мазынскі ўпершыню зрабіў рэальнасцю тое, што да яго абяцалі многія рэжысёры-педагогі. А менавіта: падрыхтаваў курс для працы ў сваім тэатры. Яго выхаванцы цяпер будуць працаваць на "Вольнай сцэне". Дарэчы, гэта першы ў гісторыі нашай Акадэміі беларускамоўны курс. Больш правільна ўсё ж сказаць — беларускі, бо маладыя людзі не штучным чынам засвоілі мову ў навучальным працэсе. Мастацкі кіраўнік ад самага пачатку арыентаваў іх найперш на ўсведамленне вытокаў і глыбінь нацыянальнай культуры, каб адчуваць і засвойваць выканаўчую традыцыю беларускай сцэны і да т.п. Нават чыста фактурна яны нясуць прыкметы нацыі. Што, дарэчы, выдатна выявілася ў іх дыпломным спектаклі "Барбара Радзівіл". Пастаноўка спадара Мазынскага не здзіўляе арыгінальнымі рэжысёрскімі хадамі, а выяўляе змест, паэтыку п'есы і магчымасці артыстаў.

Тут страсці не буяюць на ўзроўні крыку-ляманту ці эфектна адпрацаваных жэстаў. Яны нібыта загнаныя ўнутр. Там, у грудзях, яны кіпяць, вызначаючы памкненні, інтанацыі, рухі душы і цела герояў. Страсць атрымлівае папраўку на іх чалавечую годнасць, жаданне — на асабістую маральную ўстаноўку. Менавіта такая выканаўчая манера (а яна падаецца не проста напрацаванай на адну пастаноўку, а прынцыпам "школы" сп.Мазынскага) забяспечвае непарушнасць атмасферы спектакля, яго мікраклімат, прыроду пачуццяў. У дыялогах, і асабліва маналогах, радуе не толькі адчуванне эмацыянальнага стану персанажаў, але і разуменне сэнсу тэксту, уменне расставіць акцэнты і на прыватным, інтымным жыцці героя, і на гістарычна-палітычных акалічнасцях. Магчыма, яшчэ не да канца пераадолелі маладыя акцёры дэкламацыйнасць, якая непазбежна ўзнікае пры ўвасабленні вершаванай драмы. Натуральна, пакуль што яны не поўнасцю прысвоілі сабе паэтычны свет герояў, але прымерка вельмі ўдалая. Засталося ледзь-ледзь падагнаць ці проста навучыцца, прывыкнуць да жыцця ў новым псіхалагічным абліччы. Сучаснаму чалавеку не так проста пераадолець дыстанцыю ў ледзь не ў паўтысячагоддзе (дзеянне п'есы адбываецца ў сярэдзіне XVI ст.).

Заакцэнтую яшчэ адзін момант, раней не бачаны на выпускным іспыце. Гэта не быў дыпломны спектакль з традыцыйнымі для яго прыкметамі — выпадковыя касцюмы, дэкарацыя, складзеная з выпадковых дэталяў. Тут было відовішча з шэрагу "багатага" тэатра. Найперш тычыцца гэта касцюмаў. Іх гістарызму, фактуры, ўзроўню выканання пазайздросціць нават Нацыянальны ці Вялікі тэатр. Спраектавала іх Наталля Сардарава. Яны, шыкоўныя, выдзяляюць артыста ў аскетычнай, але вельмі дакладнай паводле атмасферы, сцэнаграфіі Віктара Цімафеева.

А на фінал гэтых нататкаў пра безумоўную падзею ў тэатральным жыцці краіны назаву прозвішчы яе галоўных герояў. Вось яны, новыя беларускія акцёры, — Таццяна Жахоўская, Вольга Лужкоўская, Валерыя Арланава, Алена Гудкова, Антаніна Нізавец, Ігар Сігоў, Юрась Жыгамонт, Юрась Бабурын, Алег Гарбуз, Анатоль Кот, Міхась Камінскі.

Яны выходзяць на "Вольную сцэну". Хай жа яна будзе сапраўды вольнай для творчасці, а акцёры вольнымі людзьмі і творцамі.

**Вячаслаў РАКІЦКІ**

***З вялікай цікавасцю прачытаў у "Культуры" (N 16 за 20 красавіка г.г.) артыкул Рыгора Равякі аб тайнапісе Скарыны. Артыкул цікавы і захапляльны, але з довадамі аўтара ніяк пагадзіцца нельга, таму дазвольце выказаць некаторыя заўвагі і меркаванні па сутнасці праблемы і доказаў — хай сабе і гіпатэтычных — аўтара публікацыі.***

***В. П.***

НАКОНТ АДНОЙ ВЕРСІІ

# ЯК У ЛЮСТЭРКУ ЎБАЧЫЦЬ ЧОРТА

Адно з галоўных палажэнняў даследавання Равякі — тое, што на вядомым гравіраваным партрэце Ф.Скарыны 1517 г. пазначаны ягоны ўзрост: літары "МЗ", якія да гэтага часу даследчыкамі лічыліся манаграмай мастака альбо гравёра, Равякам прачытаны як лічба 47, запісаная старым славянскім спосабам з дапамогай літар. Зразумела, можна прачытаць манаграму і так. Іншае пытанне, што азначае гэтая лічба? Равяка сцвярджае: гэта — узрост Скарыны. Вось табе і маеш! У часы Скарыны ў такім узросце ўжо рыхтаваліся да смерці. У Германіі XII — XIV стст. пік смяротнасці прыпадаў на 21 — 40 год чалавечага жыцця, крыху менш людзей смерць забірала ва ўзросце 41 — 60 год. Увогуле ў сярэднявечнай Еўропе да XV ст. пік смяротнасці прыходзіўся менавіта на гэты ўзрост. У пачатку XVI — XVII стст. працягласць чалавечага жыцця некалькі павялічылася, паміралі ў асноўным у 50 — 60 год. Скарына, атрымліваецца, у такім узросце толькі пачынаў. Зрэшты, можна прыпусціць, што ён і насампраўдзе быў тагачасным доўгажыхаром, але дастаткова паглядзець на яго партрэт, каб упэўніцца — ну які з яго пяцідзесяцігадовы стары? Там ён падаецца чалавекам сярэдніх гадоў, якому яшчэ да старасці жыць ды жыць.

Яшчэ адзін доказ Равякі аб нараджэнні Скарыны ў 1470 г. —загалоўныя літары яго Біблії, пазначаныя "нестандартным чынам": "А" і "ОУ". Калі іх прачытаць як славянскія літары, то атрымаецца быццам бы "1470". Толькі вось незразумела: чаму аўтар артыкула падае "АУО", калі літар дзве — "А" са спецыяльным знакам азначае 1000, а літара "ОУ" (хаця пісаліся два знакі, але чыталіся яны проста як "У") азначае толькі 400.

Далей Равяка мяркуе, што наш першадрукар нарадзіўся ў дзень веснавога раўнадзенства — 21 сакавіка. Падставы: менавіта гэтай кропкай павернута да гледача армілярная нябесная сфера на партрэце Ф.Скарыны. Гэта так, але пры чым тут дзень нараджэння? Падобныя сферы тагачасныя мастакі вельмі любілі маляваць на партрэтах інтэлектуалаў, гэта быў прызнаны сімвал мудрасці, як, напрыклад, на партрэтах святога Аўгустына, Платона, Магелана і іншых. Р.Равяка сцвярджае, што астранамічны знак веснавога раўнадзенства добра чытаецца сярод арнаментаў і вяваў загалоўных літар з пражскай Біблії — "А" і "М". Знайсці яго там можна, калі надаваць сэнс выпадковым закаручкам, але зноў жа, пры чым тут дата нараджэння Скарыны?

Пасля гэтага аўтар публікацыі ідзе далей. "Знайшоўшы" лічбу 47 як узрост Скарыны ў 1517 г., ён выкарыстаў яе яшчэ раз. Менавіта на 47 дзень пасля нараджэння хрысцілі Скарыну, піша Равяка. Гэта зусім неверагодна. Хрысцілі ў тыя часы, трэба думаць, прыкладна так, як у XIX — XX стст. — на 7 — 10 дзень пасля нараджэння немаўляці, нехрышчоным дзіця не павінна было доўгі час заставацца ў сям'і. Але чаму ўсё ж Равяка вырашыў паўтора выкарыстаць лічбу 47? Здаецца, каб паказаць, што хрысцільнае імя Скарыны — Георгі. Аўтар разважае так: калі ад дня веснавога раўнадзенства 21 сакавіка адлічыць 47 дзён, то атрымаецца 6 мая — дзень святога Георгія Пераможцы (паводле праваслаўнага календара). Гэтыя падлікі лёгка праверыць: калі адлічыць патрэбныя дні, то мы атрымаем не 6, а 7 мая. Да таго ж аўтар заблытаў чытача з перакладам дат са "старога" (праваслаўнага) календара на "новы". Дзень святога Георгія Пераможцы прыпадае на 23 красавіка "старога" праваслаўнага календара (6 мая па новаму стылю). Але ў часы Скарыны новага календара ўвогуле не існавала, і перакладаць гэтую дату няма ніякага сэнсу. Святы Георгі — гэта толькі 23 красавіка. Напрыклад, вядомы князь Ігар пачаў свой паход на полаўцаў 23 красавіка 1185 г., як адзначана ў летапісе, бо меў хрысцільнае імя Георгі, а пачынаць паход у дзень свайго святога заступніка лічылася добрай прыкметай.

Падмацаваць думку, што Скарына быў Георгіем, Равяка спрабуе і іншым шляхам. Вядома, што на партрэце першадрукара ёсць надпіс "Доктор Францискo Скорина". Такое чытанне не задавальняе Р.Равяку: надпіс вяззю трэба чытаць не супраць гадзіннікавай стрэлкі, а па стрэлцы. Адзначым, што ўсе надпісы славянскай вяззю чытаюцца аднолькава — злева направа. Слова "доктор" Равяка прачытаў наадварот ("па гадзіннікавай стрэлцы"), атрымалася "ргг". "Значыць, Георгій!" — усклікнуў аўтар артыкула. Што ж, можна чытаць і так. Толькі калі Равяка называе гэта строгім падыходам, то які падыход лічыць адвольным?

У Р.Равякі ёсць і іншыя доказы веснавога нараджэння Скарыны. Скарына, маўляў, увесь час прыцягвае ўвагу чытача да веснавой пары. Вось загалоўная літара "С" з кветкай унутры — значыць, красавік, квецень, а кветка — вяргіня, яе Скарына спецыяльна змясціў, каб намякнуць на дзень святога Георгія — 23 сакавіка. Заўважым са свайго боку, што красавік названы так таму, што ў ім квітнеюць першыя краскі-кветкі, а час вяргіняў — восень. Дарэчы, тут аўтара трохі падвяло няведанне гістарычных рэалій, бо ў часы Скарыны вяргіні яшчэ раслі сабе на сваёй радзіме ў Амерыцы, і іх не ведалі ў Еўропе.

Больш сур'ёзныя сумненні выклікае аналіз Равякам загалоўных літар з пражскай Біблії Скарыны. Ёсць літара "Л" з выявай



*Вячка ЦЕЛЕШ. Першыя крокі ў Свет (Францішак Скарына ў Рызе).*

чалавека з дубінай і шчытом — Геракл, паводле Равякі. Гэтую думку мы вымушаны адкінуць — славуты герой ніколі не карыстаўся шчытом. Літара "Л" усярэдзіне нясе выяву не ягняці, як мяркуе Равяка, а геральдычнага льва, вельмі папулярнага ў тагачаснай Еўропе і ў тым ліку на Беларусі, бо ў гэты час у нас хадзілі так званыя пражскія грошы — сярэбраныя манеты з выявай такога льва. Спыніўся аўтар і на "надпісах" на гэтым ініцыяле, сярод якіх быццам бы ёсць і дата 7 жніўня. Равяка мяркуе, што гэта дзень нараджэння бацькі Скарыны. А чаму не маці ці, скажам, брата? — можа спытаць зацікаўлены чытач. Адказу ён не знойдзе. Ды і самі "надпісы" на гэтым ініцыяле з'явіліся толькі таму, што так яго падправілі рэдактары ў энцыклапедычным даведніку "Скарына", адкуль яго, відаць, і ўзяў Равяка. А вось калі звярнуцца да саміх Скарынавых кніг, то бачна, што "надпісы" — гэта проста лапы льва.

Сучасныя выдавецкія рэдактары падвялі аўтара яшчэ раз. Равяка прыводзіць дзве аднолькавыя літары "Я", толькі ў люстраным адбітку. Ён мяркуе, што Скарына наўмысна выкарыстоўваў абодва варыянты, каб паказаць чытачам, што ягоныя кнігі трэба чытаць з люстэркам. На самой справе варыянт адзін, а другі з'явіўся ў энцыклапедычным даведніку "Скарына" (і затым у артыкуле Равякі) толькі таму, што нехта перавярнуў негатыў ілюстрацыі на другі бок.

Не зусім дакладны аўтар і ў падліках загалоўных літар (ініцыялаў) у Біблії Скарыны. Вось, мяркуе аўтар, толькі літары "С" і "Г" зроблены ў васьмі экземплярах, таму Скарыну звалі Георгіем. На самой справе таксама ў васьмі экземплярах зроблена і літара "В", і што з усяго гэтага? Ініцыял "С" сустракаецца ў Скарынавай Біблії не ў васьмі варыянтах, а толькі ў сямі (восьмы трапіў у той жа даведнік "Скарына" зноў з-за тэхнічнай памылкі). А вось літара "Ф" налічвае не два варыянты, як думае Равяка, а толькі адзін.

Аўтар артыкула асаблівую ўвагу ўдзяліў тэасофнаму вучэнню А.П.Блавацкай і паспрабаваў паказаць, што Скарына быў яе прамым папярэднікам у развіцці гэтай рэлігійнай плыні. Доказ тут — супадзенне сімволікі Блавацкай з арбісамі ініцыялаў Скарынавай Біблії. Тут няцяжка заўважыць, што супадаюць, уласна, толькі два сімвалы з двума літарамі — "Г" і "О". Гэтак любую кнігу (у ёй абавязкова будуць такія літары) можна звязаць з вучэннем Блавацкай. І наўрад ці тут дапамогуць сцвярджэнні, што Блавацкая "па сваім духоўным і псіхафізіялагічным развіцці апярэдзіла чалавецтва на некалькі стагоддзяў", а Скарына "апярэдзіў на тры стагоддзі погляды Вярнадскага". Равяка, відаць, шчыра верыць у звышнатуральныя здольнасці Скарыны і сувязі яго дзейнасці з вучэннем Блавацкай. Але ж такая вера — асабістая справа кожнага чалавека, яна не падлягае навуковаму разгляду, і мы ўхілімся ад яе абмеркавання.

Але ўсё ж, як знайсці ў люстэрку чорта? Равяка дае адказ: трэба прыкласці люстэрка да ініцыяла "Ф" са Скарынавай Біблії, і кавалачак малюнка ператворыцца ў твар з рожкамі. Што ж, ёсць такая дзіцячая забаўка. На думку Равякі, менавіта такім шляхам Скарына паказаў чытачам нелюбоў да свайго каталіцкага імя Францыск — д'ябальскае імя! Бяда толькі ў тым, што ініцыял гэты зусім не "Ф", а "Ч" (ужыты ў Скарынавай Біблії 1 раз у такім значэнні). Ды і люстэрка для чытача часоў Скарыны знайсці было амаль што немагчыма: іх выраблялі вельмі мала і пераважна круглай формы. Што да Беларусі, то падчас раскопак у гарадах археолагі сустрэлі дзесяткі тысяч самых розных рэчаў і беднаты, і багацеяў, і сярод іх — ніводнага люстэрка.

Увогуле атрымалася, што хаця ў артыкуле Равякі фактаў і шмат, але праверкі яны не вытрымліваюць. Падводзяць аўтара і памылкі ў падліках, і друкарскія апячаткі, і, можа, задужае імкненне прыпісваць Скарыне веданне ўсяго і ўся. Тут нашаму першадрукару можна толькі паспачуваць. Раней даследчыкі ўжо лічылі яго то праваслаўным, то католікам, то пратэстантам, то вуніятам, то прыхільнікам усіх гэтых плыняў адразу. Равяка нагрузіў яго яшчэ веданнем вучэння Блавацкай, кельцкіх кніжнікаў-друідаў, нечым з расійскага стараабрадства і антычных вераванняў. Вось толькі ці пацягне сам Скарына такі воз? Зрэшты, дзейнасць першадрукара яшчэ шмат у чым таямнічая, сучасным даследчыкам яшчэ працаваць і працаваць над яе вывучэннем.

**ВАЛЕРЫ ПАЗДНЯКОЎ,**
**кандыдат гістарычных навук**

# ХРЫСЦІЯНСКАЯ КУЛЬТУРА МАГІЛЁВА

Немагчыма ўявіць ніводны еўрапейскі народ, у тым ліку і беларускі, без здабыткаў хрысціянскай культуры — гэтага вызначальнага чынніка ў развіцці Еўропы. У горадзе Магілёве працуе выстава "Хрысціянская культура Магілёва" з фондаў музея гісторыі Магілёва, прысвечаная Другому міжнароднаму хрысціянскаму фестывалю духоўнай музыкі "Магутны Божа". Размясцілася выстава ў памяшканні музея імя В.К.Бялыніцкага-Бірулі. Мастак-афарміцель М.А.Араслянаў.

Наша Бацькаўшчына была месцам суіснавання розных хрысціянскіх канфесій: праваслаўя, рыма-каталіцтва, уніяцтва, пратэстанцтва. Кожная з гэтых плыняў унесла важкі ўклад у скарбонку нашай культуры. Таму на выставе прадстаўлены прадметы культу і ўзоры мастацтва розных канфесій. Гэта фотаадбіткі семнаццаці гравюр Фёдара Англейкі — аднаго з выдатнейшых прадстаўнікоў Магілёўскай школы гравюры канца XVII — пач. XVIII ст. Гравюры з Евангелля, выдадзенага ў Кіева-Пячорскай Лаўры ў 1697 годзе і выўленага ў Магілёве ў адным з прыватных кнігазбораў. Можна таксама пазнаёміцца з вялікай калекцыяй арнатаў (рыз), якія зроблены ў раманскім стылі ў канцы XIX —пач. XX ст. і ўжо не выкарыстоўваюцца ў касцёлах; са старадрукамі XVIII ст., дзе ёсць даравальныя надпісы і пячаткі. На выставе ёсць стараверчаскія кнігі XIX ст., вялікая кольказць абразоў канца XVIII — пач. XIX ст. беларускай школы іканапісу, кафля... Каштоўны падарунак зрабіў Фонд адраджэння культурнай спадчыны г.Магілёва, падараваўшы музею драўляную скульптуру анёла XVIII ст., якая добра захавалася і дэманструецца на выставе.

У кожнай рэчы, ад маленькага нацельнага крыжыка да шыкоўна аздобленых арнатаў і па-майстэрску выкананых гравюр, адчуваецца часцінка душы майстра, тая жыццядайная энергія і глыбокая вера, што натхняла яго ў працы.

**Ігар ПУШКІН,**
**дырэктар музея гісторыі г.Магілёва**



*На здымку:* фрагмент выставы з арнатамі.

**Фота А.Ліціна**

ЛЮБОЎ ПІСАРЭНКАВА — паветраная гімнастка, супер-зорка эстрады і цырка — нараджалася чатыры разы... Першы раз, як кожны з нас, у "радзільцы". Другі раз — як актрыса. Потым, пасля страшэннага падзення, — і як актрыса, і як чалавек. І, нарэшце, некалькі гадоў таму, калі ў час гастроляў Ленінградскага мюзік-хола на Сэйшэльскіх астравах разам са сваім мужам, таленавітым маладым эквілібрыстам Юрыем Красновым, папрасіла палітычнага прыстанішча ў амерыканскім пасольстве, — як чалавек свабоднага грамадства.

І сёння, у свае 56 гадоў, паспытаўшы столькі, колькі і не ўсялякі мужчына вытрывае, гэтая мініяцюрная, зграбная жанчына не толькі працягвае ўсё гэтак жа бліскуча выступаць, але, на мой погляд, яшчэ больш паглыбіла сутнасць сваёй работы, канчаткова спалучыўшы паветраную гімнастыку з балетам.

І хаця амерыканская публіка, "сапсаваная" трохманежнымі цыркамі-монстрамі тыпу "Рынглінг Барнум энд Бэйлі", у масе сваёй лічыць, што цырк — толькі дэманстрацыя ашаламляльных трукаў, па тым, з якім поспехам успрымаюць нумары, створаныя Любоўю Пісарэнкавай і Юрыем Красновым па канонах харэаграфіі, робіцца ясна, што сапраўднае, вялікае мастацтва зразумелае паўсюдна.

Наша новая сустрэча адбылася ў Фларыдзе, у незвычайным па прыгажосці парку атракцыёнаў і запаведніку экзатычных жывёл —"Буш гардэнсе". Тут, у амфітэатры на дзве тысячы месцаў, сонечным, як і ўвесь гэты парк, напоўненым паветрам і святлом, вось ужо паўгода выступалі Любоў і Юрый. Калі ведаць аб тым, што сцэна гэтая лічыцца прэстыжнай сярод амерыканскіх цыркавых і эстрадных артыстаў, нумары Пісарэнкавай і Краснова высока каціруюцца.

Урэшце, нумар Пісарэнкавай заўжды ішоў ледзь не першым радком у сусветным табелі аб рангах як вялікасці Паветранай Гімнастыкі. Іншая справа, што сама артыстка была чалавекам не простым, можа быць, занадта прасталінейным, занадта шчырым. За многа гадоў работы ў савецкім цырку Любоў так і не навучылася прыстасоўвацца да тых, хто мае ўладу, сюсюкаць і своечасова падтакваць ім. Яна злавала многіх. І тым, што, маючы бліскучы, найвыдатнейшы нумар, не прыніжалася, не прасіла для сябе ставак, замежных паездак. І тым, што як рэжысёр і харэограф увесь час бескарыслівa дапамагала маладым калегам. І тым, што пастаянна выдумляла нешта новае, спрабавала, адстойвала, не даючы спакою чыноўнікам ад мастацтва.

— Але ў рэшце рэшт Вам прыйшлося пайсці з цырка? — спытаў я Любу.

— Хутчэй, нас прымусілі пайсці. Гэта было ў 1984 годзе. У хуткім часе мы ўжо працавалі ў Ленінградскім мюзік-холе. У свой час, у 60-я, я пачынала ў мюзік-холе, праўда, у маскоўскім.

— Ваша трагічнае падзенне здарылася менавіта там, на эстрадзе? Здаецца, гэта адбылося ў Днепрапятроўску?

— Так. Летам 84-га мы завяршалі гастролі ў Сочы і 15 кастрычніка павінны былі пачаць выступленні ў Днепрапятроўску. На жаль, кардэбалету далі парэпеціраваць, а салістам — не. Пайшла ў паветра. Заканчвала. Усе тэмпавыя, найбольш складаныя трукі ўжо былі завершаныя, і ў той час, калі я проста сядзела ў кольцы, выконваючы камплімент, трос, які трымалі уніфарміст, абарваўся. Я абрынулася разам з кольцам з вышыні 8 метраў на цвёрдую падлогу сцэны. Левая рука ў кісці была расціснутая, пазваночнік у двух месцах пераломлены, былі пераломы ў тазабедраным суставе. Усе лічылі, што я ўжо не выжыву...

Потым, калі я ўсё ж такі выжыла, усе былі ўпэўненыя, што я ніколі не здолею самастойна хадзіць і асуджана на нерухомасць. Болі былі страшэнныя, і спачатку мяне трымалі на болепатольных уколах. У хуткім часе мяне перавезлі з Днепрапятроўска ў Маскву, у інстытут траўматалогіі.

Мне не хочацца нічога гаварыць пра ўрачоў і нашую медыцыну. Проста не было лекаў, не было догляду, не было клопату. Усе, хто хаця б аднойчы ляжаў у нашых шпіталях, гэта ведаюць.

Калі праз паўтара месяцы з маёй рукі знялі гіпс, не згінаўся ніводзін палец.

"Дык я ж інвалід!" — закрычала я. І мне пачалі ламаць руку ізноў...

Потым я пачала вучыцца трымаць шыю, як двухмесячнае дзіця. Калі не было ўрачоў, я вучылася ўставаць. Яны хацелі поўнасцю закаваць мяне ў гіпс, і я зразумела, што калі згаджуся, дык ніколі ўжо не толькі лётаць у паветры — хадзіць па зямлі не змагу.

За бутэльку французскага каньяку мне зрабілі карсет, я пачала вучыцца стаяць. Спачатку па 5 — 10 секунд, потым больш. За вялікія грошы мы запрашалі то масажыста, то неўрапатолага, то спецыяліста па іголкатэрапіі. Потым я пачала поўзаць на карачках. Было страшэнна балюча, але я ведала: інвалідам я жыць не буду. Паступова сталі з'яўляцца мышцы. Бо ў момант падзення ўсе мае мышцы зніклі. Так-так, ногі і рукі ў адно імгненне ператварыліся ў запалкі, быццам я выйшла з Асвенціму. Аказваецца, мышцы — камора арганізма, усе яны пайшлі на зажыўленне пазваночніка.

... Ды Юра павінен быў ехаць у Ленінград, інакш яго пагражалі звольніць з мюзік-хола. А я не магу падняцца, у мяне па начах прыступы. Сяк-так мяне ўсё ж да Ленінграда давезлі. Я, лежачы, давала ўрокі харэаграфіі, пачала паціху хадзіць, таксама лежачы ў ложку, падцягвацца.

— Ці было страшна?

— Не тое слова... Памятаеце андэрсэнаўскую "Русалачку"? Калі яна ішла, дык у яе пяткі ўтыкаліся іголкі. Вось таксама і ў мяне. Кожны крок быў пакутай. Але я не давала сабе магчымасці ляжаць, магла поўзаць усю ноч і спрабавала ўставаць, хадзіць... У мяне не было выбару: альбо зноў вучыцца хадзіць і працаваць, альбо не жыць.

Калі праз 10 месяцаў Юра з калектывам выпраўляўся ў ГДР, я ўжо выходзіла на сцэну і асісціравала яму... Гледачы не здагадваліся, што я ў карсеце. А потым мы паехалі ў Манголію, і 8 кастрычніка 1985 года я ізноў паднялася ў паветра. Без тыдня год прайшоў з таго злашчаснага дня ў Днепрапятроўску.

Зразумела, работа была няпоўнай і пазваночнік увесь час балеў. Мне сказалі: тры-чатыры гады патрабуецца для поўнай кансалідацыі пазваночніка, які пераламіўся на два кавалкі. Адзін кавалак пазваночніка пайшоў у мяне пад жывот, а другі — пад спіну. Неабходна была аперацыя. Але, як пазней сказалі мне спецыялісты, у мяне быў так моцна развіты мышачны карсет, дзякуючы пастаянным трэніроўкам, што сваімі мышцамі, без хірургічнага ўмяшання, я сама падагнала адзін да аднаго асколкі пазванкоў. І кансалідацыя атрымалася.




— Тое, што пасля такой страшэннай траўмы Вы вярнуліся ў паветра, гісторыя цалкам фантастычная. Я ведаю, што нават Вашы зласліўцы былі ўражаны Вашай мужнасцю. Не меншае ўражанне зрабілі на ўсіх і Вашы "ўцёкі". У Саюзе, праўда, аб гэтым ведалі толькі ў артыстычных колах. Але тут, у Штатах, пра Вас і Юрыя, наколькі мне вядома, пісалі амаль усе буйнейшыя газеты?

— Так, і "Нью-Ёрк пост", і "Нью-Ёрк таймс", і тэлебачанне шмат гаварылі аб нас.

— Для ўсіх Вашае невяртанне было нечаканасцю. Для ўсіх, акрамя Вас? Альбо Вы ўсё ж такі меркавалі раней зрабіць такі крок?

— Хаця шмат чаго мяне ў тым жыцці, у якім жыла, абурала і крыўдзіла, з'язджаць ніколі не збіралася. Так, можна гаварыць аб крыўдах. Памятаю, калі "Литературная газета", спрабуючы разабрацца, у чым прычына занападу нашага цырка, пасля размовы з Нікуліным і Паповым падрыхтавала вялікае інтэрв'ю са мною, рэдкалегія адхіліла яго толькі таму, што ў Пісарэнкавай, маўляў, няма звання заслужанай альбо народнай! Але ж гэта якраз і ёсць адна з прычын рэгрэсу савецкага цырка, дзе доўгі час падтрымліваліся не лепшыя, а толькі паслухмяныя артысты. Каб, крый Бог, не пачалі "выступаць" супраць кіраўніцтва, гэтым падрываючы ягоныя асновы. Бо часта высокія стаўкі і званні ў нас на радзіме давалі толькі за актыўную партыйную альбо грамадскую работу. Ці як гэта было з Мілаевым, якому ўручылі Зорку Героя Сацыялістычнай Працы толькі за тое, што ён зяць Брэжнева.

Тут, у Амерыцы, усё гэта выклікае ўсмешку і здаецца дурным фанабэрствам. Але тады там усё гэта, на жаль, мела значэнне. Я ўсім перашкаджала. І падумала: калі я не патрэбная роднай краіне, можа быць, здолею аддаць тое, што маю, — Амерыцы? Можа быць, тут я буду патрэбная?

— Дзевяць год, як Вы тут. Ці тое гэта, да чаго Вы імкнуліся? Я разумею, што чалавек, асабліва такі чалавек, як Вы, ніколі не бывае поўнасцю задаволены, і ўсё ж?

— Так, мы з Юрам усё вырашаем самі: месца працы, аплату, колькасць канцэртаў, пластыку, музыку, касцюмы. Мы поўнасцю незалежныя ў творчасці. Пра гэта можна было толькі марыць. І як акцёры мы тут поўнасцю разняволеныя. Мы робім усё, што хочам.

— Люба, прабачце за не зусім сціплае пытанне, але, спадзяюся, доўгі час нашай сумеснай працы і добрых адносін адзін да аднаго дазваляюць мне спытаць Вас, як Вы жывяце тут матэрыяльна? Зрэшты, калі не хочаце, можаце не адказваць, гэта, зразумела, Ваша ўласная справа.

— Калі я паехала з Саюза, у мяне на ашчаднай кніжцы было 20 тысяч рублёў. За трыццаць гадоў працы. Прытым, што я не марнатравец па натуры, не люблю рэстараны, ніколі не піла спіртнога і не паліла, абыякава ставілася да ануч і каштоўнасцяў. Галоўным для мяне было мастацтва, яму я прысвяціла ўсё сваё жыццё. У Маскве я мела двухпакаёвую кватэру, у такіх тут жывуць толькі вельмі бедныя людзі. Зараз у мяне ёсць цалкам выкуплены дом, акрамя таго, у штаце Індыяна мы купілі ферму з кавалкам зямлі ў 32 акры, лесам, полем і цудоўным возерам, на якім нават зімой жывуць лебедзі.

Зараз мы можам дазволіць сабе купіць любыя тканіны для артыстычных касцюмаў, дарагую асвятляльную апаратуру. Пры гэтым мы працуем столькі, колькі хочам. І, канешне, думаем праз нейкі час адчыніць сваю цыркавую школу. Я мяркую, праз два-тры гады гэта будзе рэальна.

І, хто ведае, магчыма, мы зможам падрыхтаваць праграму, пра якую марыла з дзяцінства: своеасаблівы "цыркавы балет". Але не буду загадваць, бо мы ж яшчэ толькі пачынаем жыццё.

Я хацеў жартам дадаць: "У чацвёрты раз". Але прамаўчаў. Таму Люба неспадзявана сказала:

— Часам здаецца, што ў мяне было некалькі жыццяў... Дзіўна, але па-сапраўднаму верыць у Бога я пачала толькі тут, у Амерыцы. І гэта вера дапамагае мне яшчэ больш любіць і шанаваць гэтае жыццё, якое б складанае і нечаканае яно ў мяне ні атрымалася.

**Аляксандр РОСІН**

Тампа (Фларыда) — Менск

Культура

**ШТОТЫДНЁВАЯ ГРАМАДСКА — АСВЕТНІЦКАЯ ГАЗЕТА выдаецца з кастрычніка 1991года**

Заснавальнік — **Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь**

Галоўны рэдактар — **Вольга ІПАТАВА**

Нам.галоўнага рэдактара — **Людміла КРУШЫНСКАЯ**

**Рэдкалегія:**

**А. ВАНЦКІ, В. ГЕДРОЙЦ, У. ГІЛЕП, Н. ЗАГОРСКАЯ, С. ЗАКОННІКАЎ, А. КУДРАВЕЦ, М. КУПАВА, В. РАКІЦКІ, В. СКВАРЦОЎ, К. ТАРАСАЎ, А. ТРУСАЎ, В. ТУРАЎ, В. ШАРАНГОВІЧ**

Адказны сакратар — **Андрэй ВАШКЕВІЧ**
Мастацкі рэдактар — **Наталля ОВАД**
Карэктар — **Мая КЛІМКОВІЧ**

Набор і вёрстка кампутарнага цэнтра газеты "Культура"

Адрас рэдакцыі:
220029, МІНСК (МЕНСК),
вул. ЧЫЧЭРЫНА, 1.

Тэлефон: **76-94-66**

Рукапісы аб'ёмам больш за адзін аўтарскі аркуш не прымаюцца.

Аўтарскія рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца.

Меркаванні аўтара могуць не адпавядаць пункту гледжання рэдакцыі.

Аўтары нясуць адказнасць за дакладнасць матэрыялаў.

©
Фармат А3.

Індэкс 63875
Агульны наклад 6000
Замова 28
Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом Друку».

**М. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

**Д. 1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10, 11, 12.**

